Цана нумару 20 гр.

№ 4 (28) Аўторак, 18 сакавіка 1929 г., м. Вільня. Год II

# ГРАМА[…]ЯНІН

[…]ЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМ[…]
[…]ОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

[…]дміністрацыя: […]NO, Zawalna 6—5. Тэлефон 14—35.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА.
За 3 месяцы. . . . 2 зл.
1 нумар . . . . . . . 20 гр.

АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ

„przegląd wileński" Uniwersytecka 9

# Для агульнага міру.

Жэнэўская конфэрэнцыя Рады Лігі Народаў, на якой разглядалася проблема нацыянальных меншасьцяў, ужо закончылася, ня даўшы меншасьцям ніякіх казытыўных карысьцяў. Праўда, што на гэтай сэсіі Рады гэтае пытаньне ня вырашана аканчальна, а перадана у спэцыяльную камісіі „трох", якая прыгатуе справаздачу і унясе яе на наступнай сэсіі Рады ў чэрвені. Але гэтая камісія, у склад якой увайшлі прадстаўнікі Японіі (справаздаўца па меншасьцёвым справам Адатеі), Англіі (мін. Чэмбэрлен) і Гішпаніі (сталы дэлегат пры Лізе Народаў Квэнон-дэ-Леон), пры апрацаваньні сваей справаздачы павінны, паводле вынесенага Радаю Лігі наказу, кіравацца тымі думкамі, якія былі адценены ў прамовах галоўных кіраўнікоў цяперашняе Эўропэйскае палітыкі пры дыскусіі над пытаньнем нац. меншасьцяу. А гэтыя прамовы не даюць права нац. меншасьцям спадзявацца на якія-небудзь палёгкі свайго лёсу ў будучыне.

Усё няшчасьце ў тым, што абарону інтарэсаў нац. меншасьцяў узяла на сябе Нямеччына, якая глядзіць на гэтую справу, як на адзін з сродкаў зьмены Вэрсальскага трактату і сваіх усходніх граніцаў. Дзеля гэтага абаронцы істнуючага стану ў Эўропе адносяцца да кожнага кроку немцаў з падазронасьцю і ўва ўсім бачаць толькі іх імкненьня да нарушэньні Эўропэйскага міру. Міністар Штрэзэман у сваёй прамове высказаў шмат лёгічных матываў на карысьць нац. меншасьцяў, але, нажаль, яны мала пераканалі Брыяна, Чэмбэрлена, Залескага і Міранэску, для якіх эўропэйскі і іх унутраны мір даражэй інтарэсаў нац. меншасьцяў.

Міністар Залескі ў сваёй прамове адказаў, што няма патрэбы павялічваць правы нац. меншасьцяў, а раіць ляпей выкарыстаць істнуючыя. Умешваньне вонкавых чыньнікаў да справаў нац. меншасьцяў можа толькі выклікаць непажаданую рэакцыю ў апініі грамадзянства. Нарэшце, раней, чым абсудзіць істнуючы стан, трэба параўняць яго не з якім-небудзь ідэальным становішчам нац. меншасьцяў, а з тым, якое было перад вайною.

Міністар Чэмбэрлен заявіў, што абарона нац. меншасьцяў ёсьць прывілеем для іх за лёяльнае супрацоўніцтва з дзяржаваю. Пры гэтым падкрэсьліў, што апека гэта можа быць аказана толькі тым, хто мае чыстыя рукі і хто зьяўляецца лёяльнымі грамадзянамі дзяржавы, да якой належаць.

А Брыян надкрэсьліў, што належыць у першую чаргу дбаць аб пашане дзяржаўнага суверэнытэту. Ён рашуча выступае проці ўсяго таго, што можа нарушыць унутраны мір у новастваранных дзяржавах, і што магло-б зашкодзіць як дзяржаве, гэтак і нац. меншасьцям.

Адсюль відаць, што нац. меншасьці, асабліва тыя, за якіх ня могуць засту-

піцца іншыя дзяржавы, ня могуць спадзявацца на зьмену свайго становішча пад уплывам вонкавых чыньнікаў, будзе гэта Ліга Народаў, ці гэтак званы Гаакскі трактат справядлівасьці. Усё будзе залежаць ад іх лёяльнасьці ў адносінах свае дзяржавы і добрае волі апошняе. У выпадку-ж якога-небудзь непаразуменьня між апошнімі, нац. меншасьці ня маюць права зьвяртацца да міжнароднага суда, калі гэтае абароны ня возьме на сябе перад Лігаю Народаў гэтая дзяржава, якая зьяўляецца сябрам Лігі Народаў. А дзеля таго, што, напрыклад, за беларусаў ці украінцаў няма каму заступіцца, апрача немцаў, якія сваёю абаронаю могуць яшчэ больш пашкодзіць, дык у-ва імя агульна-Эўропэйскага і ўнутранага „міру“ яны павінны сядзець ціха, быць „лёяльнымі“ грамадзянамі і быць задаволенымі тым, што ім дадуць. Гэтага патрабуе Эўропэйскі мір і Вэрсальскі трактат, якія здабываліся рукамі і крывёю ня толькі тых, каму яны прыносяць карысьць.

Нат дзіўна было-б чакаць нац. меншасьцям абароны ад Лігі Народаў, якая фактычна зьяўляецца аружжам у рухах Англіі і Францыі, зьвязаных супольнымі інтарэсамі і маючых аднолькавыя клопаты. Дзеля чаго Англія будзе клапаціцца аб якіх-небудзь беларусах, калі яна мае свае клопаты ў Азіі, у Індыі, дзе індускія нацыяналістыя байкатуюць англійскія тавары, у Афрыцы, ці Францыя, якая пасьля мароккскага і сырыйскага паўстаньня нажыла сабе скулу ў асобе Эльзас-Лётарынгіі?

Як некалі мала іх цікавіў лёс падзеленае Польшчы, Чэхіі і Харватаў, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі, захопленае ў 1907 г. Аўстро-Вэнгрыяй Босніі і Гэрцагавіны, дзеля таго толькі, каб утрымаць Эўропэйскі мір, вынікі нарушэньня якога ня можна было прадбачыць, гэтак і цяпер іх мала цікавіць лёс украінцаў, беларусаў, вэнграў, макэдонцаў, армянаў, грузінаў, расейцаў і іншых, якія сваімі жальбамі у Лізе Народаў маглі-бы толькі ўносіць дысананс у наладжаны новы Эўропэйскі концэрт,

Але невядома, ці прывядзе гэта да узмацненьня Эўропэйскага міру і агульнага супакою пераможцаў і іх прыхільнікаў, калі ўзьнікаючыя ў арганізмах розных эўропэйскіх дзяржаваў рацыянальныя пахопы будуць заганяцца ўнутр, замест таго, каб гэты бруд выпушчаць наверх.

# Перад 11 угодкамі Беларус. Незалежнасьці.

*Незалежная Беларуская Народная Рэспубліка, абвешчаньне каторай было гістарычным фактам 25 сакавіка 1918 году, сталася Ідэалам, сталася тэй Зоркай, якая вабіць да сябе кожнага беларуса.* Сумна ўспамінаць аб тым, што цераз нейкіх 5 дзён дакумэнт, выявіўшы волю прадстаўнікоў беларускага народу, стаўся музэйнаю папераю, якую для цікавасьці іншы раз разглядаюць сумліўныя гісторыкі, а прадстаўнікі, каторыя ў-ю ноч з 24 на 25 сакавіка радзіліся і спрачаліся аб лёсе свайго народу, расьцярушыліся па ўсім сьвеце, як-бы нясучы яму вестку, што беларускі народ меў шчасьце чуць аб сваёй Незалежнасьці...

Сумна таму, што 14-цімільённы народ, які засяляе аграмадную плошчу зямлі, у рашучы мамэнт не падтрымаў сваіх выбранцаў, і такім чынам ня выказаў цьвёрдасьці сваей волі, выражанай яго прадстаўнікамі. Сумна і таму, што прадстаўнікі выяўлялі волю народа тады, калі ня мелі пэўнасьці ў тым, што народ не затрымаецца ні перад якімі перашкодамі, каб дабіцца таго, чаго ён хоча.

Мімаволі насоўваецца думка, што акт 25 сакавіка 1918 году быў інтрыгаю больш спрытнейшых „прадстаўнікоў“ Рады Беларускае Рэспублікі, бо калі Ўсебеларускі Кангрэс сабраўся ў сьнежні 1917 году „каб выявіць усяму сьвету, што Беларускі народ ж ы в е і што ён х о ч а быць н е з а л е ж н ы м“, дык Рада пастаралася давясьці, што Беларускі народ ужо зьдзейсьніў сваё хаценьне. І як ня дзіўна—уцелаішчыў сваю волю цераз нейкі год пасьля кангрэсу!

Гэтым прадстаўніком Рады было-ж ведама, што да Незалежнасьці народы ідуць шляхам нацыянальнага усьведамленьня, стварэньнем эканамічных і культурных арганізацыяў на гэтым шляху і барацьбою з рознымі перашкодамі, каторыя мяшаюць гарманічнаму сужыцьцю іх, ці то ўнутры, ці то з вонку. Калі ўжо народ адчувае „задуху“, калі ўжо адруховыя сілы, якія выяўляліся ў працэсе гэтай „задухі“, пачынаюць прыймаць цяглы характар—народ, напружаючы рэшту сваіх сіл, зрываецца, зьніштажае „задуху“ і, пачуўшы волю, інстынктыўна становіцца ў вабароне яе. Вось схэма, па каторай навейшая гісторыя будуе незалежніцтвы раней уціска-

ных народаў. Прыклады-ж Літвы, Латвіі, Эстоніі і нават Польшчы, паўстаўшых да незалежнага жыцьця вынікам апошняе сусьветнае вайны, так-жа часткава дакаваліся па гэтай схэме, бо народы гэтых дзяржаваў яшчэ да сусьветнае вайны ішлі па шляху нацыянальнага усьведамленьня і стварэньня сваіх эканамічных і культурных арганізацыяў, хоць, праўда, ня ў давольнай колькасьці. Народы гэтыя яшчэ да вайны пачыналі адчуваць „задуху“.

Нічога-ж падобнага ня было ў беларускім народзе. Ён адчуваў толькі ўціск. І калі гэты ўціск раптам зьнік, „прадстаўнікі“ неразважна заінтрыгавалі незалежнасьцю і... цераз 5 дзён асталіся каля разьбітага карыта. Прадстаўнікі расьцярушыліся па ўсім сьвеце і, шукаючы прычын гэтае інтрыгі, у выклісканьні каторай ім сорамна было прызнацца, знайшлі як-раз у тым, аб чым гаварылася вышэй. Знайшлі і нацыянальную няспеласьць, і адсутнасьць эканамічных арганізацыяў, і слабасьць культурную, і непадгатаванасьць народу да ахвяраў, і нявыррабленасьць волі, і яшчэ і яшчэ. Адным словам— віну з сябе зьвярнулі на народ. Наступныя-ж пасьля інтрыгі прадстаўнікоў падзеі, каторыя параўнаўча хутка скончыліся падзелам Беларускае зямлі на дзьве няроўныя часткі, паказалі, што ў лік прычын уваходзілі так-жа і чыньнікі соцыяльнага характару, якія ў часе акту 25 сакавіка 1918 году „прадстаўнікі“ ігнаравалі.

Але як-там ня было, а інтрыга „прадстаўнікоў“ зьвярнула увагу беларускага народу і ўзбудзіла ў ім сапраўднае жаданьне быць незалежным. Гэтая інтрыга абудзіла ў ім веру у зьдзейсьненьне нацыянальных і соцыяльных ідэалаў і надзею дабіцца гэтага ўласнымі сіламі.

У гэтым заслуга „прадстаўнікоў“ і гэтым быўшая інтрыга выкупляе сябе.

Праходзіць ужо 11 год ад акту 25 сакавіка 1918 году, а частка беларускага народу, каторую росчыркі на Рыскім трактаце перасунулі бліжэй да Захаду, з жахам пазірае на сваё „грамадзянства“, якое прысабечыла сабе права стаўляньня і перайначваньня вехаў на шляху да яго Ідэалу, з жахам пазірае, як „грамадзянства“ грызецца само з сабою за мейсцы гэтых вехаў.

Тым большы жах у беларускім народзе, што ў цяперашнім „грамадзянстве“ ён бачыць і тых некаторых быўшых сваіх прадстаўнікоў, каторыя разам з другімі 11 гадоў таму назад далі яму шчасьце „хоць кароткі момант чуць аб незалежнасьці“.

Праўда, за апошнія 11 гадоў беларускае „грамадзянства“, апрача стаўляньня і перайначваньня вехаў, працавала і над нацыянальным усьведамленьнем народу і над культурным яго разьвіцьцём, і нат над стварэньнем эканамічных арганізацыяў, але вынікі гэтае працы нязначныя. Нязначныя яны таму, што „грамадзянства“, за вынятакм той часткі яго, каторая ясьней разумее патрэбы беларускага народу і спагадлівейшая яго незадаваленьню палажэньнем бліжэй да Захаду, сьвядома апускае рукі калі варункі працы вымагаюць унясеньня соцыяльных элемэнтаў у культурна-нацыянальнае усьведамленьне, а іншы раз проста-такі распачынаць працу ад соцыяльнага усьведамленьне. Культурна-нацыянальнае усьведамленьне і стварэньне эканамічных арганізацыяў сярод беларускага народу „грамадзянства“ вяло толькі дзеля таго, каб мець „апору“ для соймавых мандатаў, і, каб не мандаты, дык ня было-б і гэтага.

Бязупынныя лаянкі, абліваньне брудам самых сябе, гульня ў „палітыку“, вырэзваньне з партыйных праграмаў „цацак“ для народу, аддаваньне беларускага народу ў залог за абяцанкі палітычных інтрыганаў другіх нацыяў, прадажніцтва яго агулам і часткамі за субсыдыі, дапамогі і іншыя іх „дабрадзействы“, абвінавачаньне адных другімі ў няшчырасьці і ў нявытрыманасьці, шпурганьне сябе справа налева і наадварот — вось сапраўдная работа верхаводаў „грамадзянства“, якая цягнецца 11 год і атручвае душу беларускага народу.

Падзеі мінулага году і пачатку бягучага, асабліва-ж у беларускіх гімназіях, шырока расчынілі вочы беларускаму народу на працу „грамадзянства“ і выклікалі падазронасьць і асцярожнасьць да большай часткі яго, што ў сваю чаргу затамоўвае размах распачатай працы, якая мае сваёю мэтаю прыблізіць час, калі зьдзейсьніцца яго Ідэал. Хіба-ж на гэтым залежала ворагам беларускага народу і яго сапраўднаму усьведамленьню?

Калі-ж, кідаючы павярхоўны пагляд на працу беларускагага „грамадзянства“, шовіністычнае польскае грамадзянства вуснамі свайго „Дзенніка Віленьскего“ заяўляе на ўвесь сьвет—„нема народовосьці бялорускей, ест тылько—завуд бялорусіна“—дык нашае „грамадзянства“ ня бачыць у гэтым абразы нацыянальнага пачуцьця свайго народу і пагарды да сябе і... моўчкі праходзіць да парадку дня.

Вось, больш-менш, з чым спатыкаем мы, беларусы, 11 угодкі сваей незалежнасьці у Польшчы.

*Па—ўскі.*

# Палітычная хроніка

## ПОЛЬШЧА.

### ДЫМІСІЯ МІНІСТРА СКАРБУ ЧЭХОВІЧА.

Міністар Скарбу Чэховіч падаў просьбу аб дымісіі. Дымісія яго застала прынята прэм'ерам Бартэлем.

### БЫЎШЫ МІН. ЧЭХОВІЧ ПЕРАД СУДОМ ВЫШЭЙШАГА ТРЫБУНАЛУ.

Сойм большасьцю галасоў ухваліў пацягнуць да судовае адказнасьці перад Вы-

шэйшым Трыбуналам мін. Скарбу Чэховіча за тое, што ён, як міністар скарбу, адказны за правідловае выдаткаваньне дзяржаўнага бюджэту, пазволіў зрабіць надвыжку ў выдатках у працягу 1927—28 г. у суме 562 міл. зл. Справа гэта разглядалася на паседжаньні соймавай бюджэтнай камісіі 12 сакавіка, на якой даваў свае паказаньні старшыня Вышэйшай Кантрольнай Палаты і было прачытана пісьмо мін. Чэховіча. З гэтага пісьма вынікае, што міністар Чэховіч яшчэ у лістападзе падаваў просьбу аб дымісіі дзеля таго, што ня сходзіўся ў сваіх паглядах з прэм'ерам Бартэлям у пытаньні аб перарасходзе бюджэту, але яго просьба ня была прынята. Хаця ў лютым прэм'ер заявіў ў Сойме, што ўвесь кабінэт ёсьць салідарны з мін. Чэховічам адносна неправідловага выдаткаваньня бюджэту, аднак-жа Сойм пацягнуў мін. Чэховіча да судовае адказнасьці.

### АРЫШТЫ НЕЗАЛЕЖНЫХ САЦЫЯЛІСТАЎ.

9 сакавіка паліцыя арыштавала ў памешканьні незалежных сацыялістаў 200 чал. Канфіскавана шмат дакумэнтаў.

### РАТЫФІКАЦЫЯ ПРАТАКОЛУ ЛІТВІНАВА.

Пры ратыфікацыі пратаколу Літвінава ў Сойме, Украінцы і група Дварчаніна галасавалі проці. Група Ярэміча ўстрымалася ад галасаваньня.

## ЗАГРАНІЦАЮ.

### КЛОПАТЫ ТРОЦКАГА.

Як ведама, маскоўскія дыктатары увесь час грызуцца між сабою. Сталін спачатку выслаў Троцкага у ссылку да Туркэстану, а нарэшце зусім высяліў заграніцу. Ён пакуль жыве з сям'ею у Канстантынопалі пад надзорам савецкага пасольства і турэцкага ураду. Прасіўся, каб нямецкі, ці францускі ўрад дазволілі уезд да гэтых дзяржаваў, але апошнія адмовілі. Цікава тое, што на'т немцы ня прыймаюць, ня гледзячы на тое, што ў 1917 г. у заплёмбаваных вагонах перавязьлі яго з Леніным і цэлаю гурмаю іншых камуністаў, даўшы яшчэ 70 міл. зл. інструкцыі для раскладу расейскае арміі і бальшавіцкага перавароту. А цяпер адварачваюцца.

### НОВАЯ ЧРЭЗВЫЧАЙКА ў С.С.Р.Р.

Пры Г.П.У. (новы назоў чрэзвычайкі) у С.С.Р.Р. створана спэцыяльная камісія для барацьбы з апазыцыйнымі кірункамі у камуністычнай партыі. На чале гэтай новай чрэзвычайкі стаіць нейкі Буланаў, па ініцыятыве якога быў высялены Троцкі з Расеі.

# Тутэйшая хроніка.

ГАДАЎШЧЫНА НАШАЕ ГАЗЭТЫ „ГРАМАДЗЯНІН." 18 сакавіка 1928 г. выйшаў першы нумар „Грамадзяніна", замяніўшы ў той час часопісь „Беларускае Слова", кіраванае гр. А. Паўлюкевічам. Роўна цэлы год „Грамадзянін" выраўніваўся і паступова звальняўся ад кірунку сваей папярэдніцы, пакуль ня стаў на грунт незалежніцкі і аб'ектыўны. Павялічаўшая падпіска на газэту—ёсьць доказам таго, што высілкі нашыя дапялі свайго. Кірунак, ўзяты „Грамадзянінам", стаіць на правідловым шляху.

АПЭЛЯЦЫЙНЫ СУД НАД ГРАМАДОЙ. Як ведама, з дня 28 лютага распачаўся ў Вільні апэляцыйны Суд над Грамадой, які працягнуўся да 16 сакавіка. У склад Суда ўваходзілі судзьдзі: Дмоўскі, Юндзіл і Бодзкевіч. Абвінавачваў пракурор Парчэўскі. Баранілі адвакаты: сэн. Абрамовіч, праф. Пятрусэвіч, Дурач, Гонігвіль, Этынгер, Бабянскі, і вядомы адвакат Сьмяроўскі. Разбор справы йшоў бяз прысутнасьці абвінавачаных. Сьведкаў прайшло перад Судом каля 40 асоб. Адносна засуджаных былых паслоў Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Валошына, Мятлы і іншых пракурор дамагаўся пакінуць той самы прысуд, які быў вызначаны праз Акружны Суд, а адносна ўнявіненых Акр. Судом Р. Астроўскаго, А. Луцкевіча і іншых, аб засудзе іх, як іншых галоўных падсудных.

Абарона даводзіла нявіннасьць большасьці падсудных і прасіла аб апраўданьні іх, а гэтак сама дамагалася аб зьмене 102 арт. на 129 арт. К.К.

Суд вынес прыгавор, зьмяншаючы ўсім падсудным кару на палову. Адносна Р. Астроўскага, А. Луцкевіча і іншых апраўданых Акр. Судом—зацьвердзіў прыгавор Акр. Суда, г. ё—ўнявініў.

СУДОВЫ ПРАЦЭС 40 КАМУНІСТЫХ. Ў Віленскім Акружным Судзе у суботу 9 сакавіка закончыўся пасьля 5-дзённага разгляду працэс 40 камуністых. Асуджана 22 чал., апраўдана 18. Двое асуджаны на 8 г. катаржнай турмы, 6—па 6 г., 4—па 5 г., 3—па 4 г. і рэшта па паўтара года. Шульману, асуджанаму на 8 г., дзеля яго непаўналецьця, кара зьменшана да 4 гадоў.

НОВЫ СУДОВЫ ПРАЦЭС. У Віл. Акр. Судзе, у панядзелак 11 сакавіка распачаўся працэс 28 сялянаў Дзісьненскага павету, абвінавачаных па 102 артыкулу К. К. (за прыналежнасьць да камуністычнай партыі Зах. Беларусі). Справа разглядаецца пры зачыненых дзьвярох. Паклікана да 100 сьведкаў.

АСУД ШПІЁНСКАЕ АРГАНІЗАЦЫІ ў НАВАГРАДКУ. 4 сакавіка Наваградзкі суд закончыў разгляд справы шпіёнскае арганізацыі, якая працавала у Наваградскім ваяводзтве. Кіраўнік арганізацыі, б. радны Баранавіцкага магістрату Шулякоўскі, асуджаны

на 12 г. катаржнае турмы, студэнт Новік 12 г., Карповіч і Матук—8 г. Кішка 6 г. і усе па 50,000 зл. штрафу кожны з заменаю у выпадку няўплаты па 2 г. турмы. Трыдуль, Лойко, Ф. і А. Савскі 4 г., Хітрык і Рамашка — па 9 мес.

КАЛЯ ВІЛ. БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ. Апошнія сумныя падзеі у Віл. Бел. Гімназіі ўскалыхнулі амаль што ня ўсё беларускае грамадзянства. Адгукнуліся на гэта і польскія і расейскія газэты.

Трэба адзначыць, што за апошні год Віл. Бел. Гімназія, як з вонку, гэтак і ўнутры, перажывала і перажывае крызыс сваё душы. З аднаго боку — дапушчэньне нашых матурыстаў да экзаменаў, наданьне публічных правоў і некаторае „этатовае“ падтрыманьне праз Урад, здавалася, стварылі грунт да супакойнай працы. З другога боку незацьверджаньне дырэктара гр. Паўловіча, абструкцыя, наладжаная вучнямі паслу Я. Станкевічу, далей удзел вучняў старшых клясаў у нейкай нелягальнай зборцы, а дзеля гэтага і звальненьне 18 з іх, з высылкай вучыцеля гр. Савіцкага за кардон Польшчы, пасьля арганізацыя малодшымі клясамі нібыта дэманстрацыі адносна працэсу „Грамады“, ўвод у Гімназію паліцыі і звальненьне 42 вучняў — ўсё гэта выказвае, што яшчэ далёка, каб усё было у парадку ў Гімназіі і што грунт для супакойнае працы, падгатаваны праз самыя Улады ці пры дапамозе беларускае „санацыі“, ня ёсьць камусь-ці на руку і самая гімназія, быўшая да гэтых падзеяў сымболем, як гэта і павінна быць, адналітасьці і салідарнасьці паміж кіраўніцтвам, вучыцелямі і вучнямі, і яна захварэла ўжо агульнай нашай хваробай — разбіцьця сваіх унутраных сілаў і страты ўзаемнае, супольнае працы.

Хто ў гэтым вінаваты — ці „санацыя“, ці хто іншы—пакажа будучыня. Беларуская прэса, якая у сучасны момант рэпрэзэнтуецца толькі „Бел. Крыніцай“, бо левыя прымусова маўчаць, а рэшта за адсутнасьцю матэр'яльных сродкаў выходзяць, калі Бог дасьць—яшчэ ня высказалася. Тлумачэньне дыр. Р. Астроўскага у „Кур. Віленскім“ і выдадзеныя праз Паўнамоцную Камісію Т-ва Школы „Весткі Т-ва Бел. Школы“ — асьвятляюць падзеі у Гімназіі аднабока, а Бацькаўскі Камітэт, які фактычна мог-бы даць вычэрпаючыя выясьненьні — маўчыць. І ня дзіва, што „Бел. Крыніца“ ў нумары 9 кажа, каб „справамі Віл. Бел. Гімназіі зацікавілася бліжэй беларускае грамадзянства і раз на заўсёды палажыла канец падобным экспэрымэнтам...“ Але ў які спосаб? — скажам мы. Ці-ж Бацькаўскі Камітэт, ці Пэдагогічная Рада пазволяць умешвацца у ўнутранае жыцьцё Гімназіі? А хто будзе прадстаўляць грамадзянства? Нацыянальны Камітэт?! Дык каторы? Нумар першы, ці нумар другі? А мо' паслы? Дык каторыя? Група Дварчаніна, ці Ярэміча ці Я. Станкевіча? А як зьбяруцца грамадзяне, ці-ж усе будуць прызнаныя за „грамадзян?“ Вось у гэтым-то і нашая хвароба—паразьбіваліся, падзяліліся, панаства, ралі аналёгічных падвойных арганізацыяў, а агульнага прадстаўніцтва грамадзянства як

---

# Крыху аб нашай гаспадарцы.

Дзядзька Тодар прачнуўся як у найлепшым настрою. Выпіў гарбаты, пачытаў газэты, паохаў, пастагнаў, пагудзеў і прыняўся за лічыла, пачаў на'т нешта падпяваць сабе пад нос. А чаму-ж яму і не пяяць? Чаму-ж ня гудзець—газэты ня лаюць, у „Прасьвеце“ парадак, у банку бягучы рахунак...

І я, седзячы ў суседнім пакоі, задумаўся аб „радасьці жыцьця“. Раптам—стук у дзьверы, і ўваходзіць фігура з партфэлем. Маладзы, рухлівы...

— Тутака Хатка беларуская?!.

— Не—кажу—тутака рэдакцыя...

— Але тутака месьцілася Хатка?!.

— Не — кажу — і ня месьцілася... А ў чым справа?

— Падатак... вось за 1927 год... лёкалёвы...

— Дык вы — кажу — паночку, памыліся. Хатка месьцілася ў кватэры нумар 4 і была ад Паўлюкевіча, а тутака нумар 5... і ад „Дзядзькі...“

— То мне ніц не обходзі...

За партфэль, за паперу і... гатова—апісаў усе сталы і крэслы...

— Пан протокул подпішэ?!.

— Не — кажу — паночку... не падпішу... І пачынаю яму выясьняць, што тутака зусім ня Хатка, што Рэдакцыя мае свой „собскі“ лёкалёвы падатак. Паказваю яму на'т квіткі аб уплаце гэтага падатку...

— Так пан не подпішэ?!—перарывае ён мяне... Довідзэня! Швырнуў пратакол на стол і зьнік.

На другі дзень „дзядзька“ ўжо „заходаўся“ — быў у Магістраце, у Старостве, а на'т у Ваяводзтве. На трэці дзень атрымаў абвестку аб „ліцытацыі“, а праз тыдзень паперку, каб усе апісаныя рэчы на свой кошт перавёз у іншае спэцыяльнае для ліцытацыі памешканьне...

І загудзеў „дзядзька„, але ўжо інакш— затопаў, залётаў па пакоі... Лаяў усіх беларусаў... Крычаў на экспэдытара, сэкрэтара... Прыйшоўшаму друкару замест грошай паказаў хвігу і, пляснуўшы дзьвярмі, зачыніўся ў сваім пакоі.

— Ну ўжо цяперака на доўга! — падумаў я, і паціху шмыгануў з рэдакцыі.

У той самы дзень заходжу да цёткі Ларысы — нашай кумпанкі па быўшай канцэсіі.

Гляджу, сядзіць, плача, аж заліваецца...

— Што гэта ёсьць?!—пытаюся...

А яна тыча мне пад нос пратакол.

— Усё гэта вашыя з „дзядзькай“ штучкі! — крычыць. За вашыя падаткі, вось усе мае рэчы апісалі.

Гляджу: і сапраўды пратакол. — І под-

гэтакага і няма. Ня ў Гімназію трэба ўмяшацца грамадзянству, бо Гімназія са сваёй Дырэкцыяй, Пэдагогічнай Радай і Бацькаўскім Камітэтам сама дасьць рады і урэгулюе сваё жыцьцё, а ў інстытуцыі агульна-грамадзкага характару, як напр. Нацыянальны Камітэт і іншыя, як выбраныя ў сваіх маленькіх колах ня маюць адвагі выступіць ад імя ўсяго грамадзянства.

Аздаравіць спачатку трэба ўсю ўнутраную атмосфэру ўсяго грамадзянства, дык тады лёгка будзе дыхаць усюды і ня будзе мейсца для такіх „экспэрымэнтаў", якія здарыліся у Гімназіі.

ПАСОЛ СТАГАНОВІЧ з групы Дварчаніна злажыў пасольскі мандат, як пішуць польскія газэты, быццам дзеля ўнутраных непаразуменьняў у гэтай групе.

ЗАПЯРЭЧАНЬНЕ. У аднаднёўцы „Весткі Т-ва Бел. Школы" ў артыкуле А. Луцкевіча пад назовам „Пазашкольная прасьвета" між іншым гаворыцца, што быццам Т-ва „Прасьвета" існуе толькі на паперы. Дык вось мусім сьцьвердзіць, што толькі ў ваднэй Віленшчыне Т-ва „Прасьвета" мае 8! аддзел у большасьці з бібліятэкамі і чытальнямі. Кожны аддзел, паводле Статуту Т-ва, павінен мець ня менш 10 сяброў, а сапраўдны лік сяброў у некаторых аддзелах даходзіць да 50 асобаў. Аддзелы ў Віленшчыне маюць 3 тэатральныя трупы—у Лебедзеве, Вялейцы і Беніцы, якія час ад часу вандруюць і наладжваюць спэктаклі. У свой час пашырэньне аддзелаў „Прасьветы" ішло амаль ня тэмпам пашырэньня гурткоў „Грамады" і, каб ня ўнутраны крызыс свайго цэнтру, дык разьвіцьцё дапяло-б разьмеру ня меншага чым Т-ва Школы. Спыненьне-ж Ваяводзтвам канцэсіі, якая больш-менш давала магчымасьць падтрымоўваць аддзелы „Прасьветы" ў культуральнай працы, не адгукнулася на існаваньні іх, бо ўжо пайшоў 4 месяц без падтрыманьня, а аніводзен аддзел не разваліўся. Праўда, спыненьне канцэсіі адбілася на пашырэньні працы гэтых аддзелаў, але гэта не дае права лічыць, што ўсё Т-ва „Прасьветы" існуе толькі на паперы.

СЬМЕРЦЬ ЖОНКІ ЛУЦКЕВІЧА. 5 сакавіка пакончыла з сабой доктар З. А. Луцкевічава. Гэтае сумнае здарэньне выклікала ў грамадзянстве жах і спачуцьцё.

Прычыны, прывёўшыя нябошчыцу да гэтага, не вядомыя.

У СТУДЭНТАЎ. У памешканьні Белар. Студ. Саюзу нядаўна адбылася супольная вечарына студэнтаў беларусаў, літвіноў і украінцаў. На вечарыне прачытаў рэфэрат аб бел. адраджэнскім руху студ. Я. Зянюк.

У НАВАГРАДЗКАЙ БЕЛ. ГІМНАЗІІ. Распараджэньнем Міністэрства вышэйшым клясам Нав. Бел. Гімн. наданы правы публічнасьці (малодшыя клясы раней мелі). Гэткім чынам ужо маем 2 гімназіі з публічнымі правамі—Віленскую і Наваградзкую.

НОВАЯ ЧАСОПІСЬ. Выйшаў па чуткам нумар 1 месячніка пад назовам „Шлях Моладзі.

СУД НАД ЗАБОЙЦАМ ГУРЫНА. Як пішуць польскія газэты, справа Кільцэвіча,

---

пс ёсьць таго самага маладога—рухлівага. І падатак — той самы і сумы тая самая.

— Вось яно як! — думаю. Дубэльтова пачаў шпарыць магістрат.

— Кіньце—зварачваюся да яе — цётка плакаць! Гэта-ж за чужыя „залегласьці" не адказываеце і плаціць ня будзеце... Зайдзеце ў Магістрат і усё выясьніцца.

Цётка павесялела, ўсупакоілася і так сама „заходалася", але палезла с пачатку не ў Магістрат, а да знаёмай жыдоўкі.

— Нічога ня будзе, мадам — уцешыла жыдоўка — калі магістрат апісаў, дык ужо капут, фэрфал дзі ганцэ пастройке. Мы ўжо добра гэта ведаем!

На другі дзень ізноў заходжу да цёткі. А ў яе быццам па пажары—рэчы раскіданыя пасярод хаты, сама ледзь дыхае, служанка ўся ў сінякох, а на стале ляжыць квіток сэквэстратара на атрыманыя грошы і як раз на тую самую суму, на якую сьпярша былі апісаны рэчы нашае рэдакцыі, а пасьля цёткіны рэчы...

— Што тутака ў вас?!—крычу... Цётка маўчыць, дый толькі лыпае вачыма... Нарэшце загаварыла...

— Вось—кажа—вашае „непаразуменьне!" Каб вас—кажа—з „дзядзькай"...

— Дык у чым-жа справа?—дзіўлюся я...

Тутака ўмяшалася ўжо служанка і пачала апавядаць.

— Мая панячка яшчэ спала—кажа—як раптам зьявілася фурманка і сэквэстратар і пачалі выносіць рэчы... Перш на перш ухапіліся за гэтае вось люстра... Панячка, як убачыла саскочыла з ложка, дый крычэць, але пасьля апамяталася, што яна ў аднэй кашулі, дык зноў схавалася і плачыць. „Растлумач ім—крычыць—што гэтыя рэчы усе ўзятыя на пракат, што я тутака часовая, з Рыгі, а дзеля гэтага ня маю ўласных рэчаў... Але дзе там! Я ім выясьняць, а яны мне сінякоў...

— Ну і што трэ' было рабіць? — перабіла цётка, зварачваючыся да мяне.

— Трэ' было зараз-жа зноў ляцець у Магістрат...

— Ну і паляцела... А тамака кажуць: сьпярша заплаціце, а пасьля разьбярэмся...

— Ну?!

— Ну і заплаціла! Але-ж я не такая дурная—дадала яна ўжо весела—заплаціла, але дзядзькінымі грашыма. Хай ён ужо разьбіраецца з Магістратам!

— Ну будзе зноў крыкаў!—падумаў я і не пайшоў у гэты дзень у рэдакцыю...

А „дзядзька", да гэтае пары „разьбіраецца". Але з Магістратам ужо, здаецца, пагадзіўся, бо тыя самыя рэчы засталіся апісаны за „залегласьці" 1927 году і Ізбай Скарбовай і Касай Хворых—за пярыяд, калі ня „дзядзька", а іншы гаспадарыў.

*Г—ка.*

які забіў Гурына — галоўнага сьведку па працэсу „Грамады“—перайшла ужо ў Акружны Суд у Вільні. Але калі будзе разглядацца ня ведама. Абараняць Кільцэвіча будзе быццам адвакат з Варшавы, п. Дурач.

„СЛАВЯНСКІЯ ПЕСЬНІ“ ў Радыё. У мінулым тыдні у Віленскім Радыё архірэйскі хор пад кіраўніцтвам п. Мацейца у сваім „гадзінным“ канцэрце „славянскае песьні“ адвёў мейсца і для 3 беларускіх песьняў, выконваючы іх у працягу каля 5 мінут. Каротка і мала у параўнаньні з адсьпяванымі песьнямі украінскімі і расейскімі. Але і тое добра. Бо апрача маналёгаў „Ашмянчука“ ў выкананьні артысты з Рэдуты п. Волэйкі, у Віл. Радыё ніколі нічога беларускага і ня чуваць. А дзеля гэтага зусім і ня дзіва, што п. Вырвіч-Віхроўскі, кіраваўшы ў той дзень праграмай Віленскага Радыё, прасіў прабачэньня за няуменьне 2—3 слоў зьвязаць па-беларуску, хаця-ж яму, артыстаму, асеўшаму у Вільні амаль ня з 1920 году, ня робіць гэта вялікага гонару.

ПРАТЭСТ ВЭКСАЛЁЎ. Паводле статыстычных даных Галоўнага Статыстычнага Ураду, ў студзені было запратэстована ва ўсёй Польшчы 356,691 вэксалёў на суму 76,987,000 зл. З гэтага на Вільню прыходзіцца 10,391 вэксаль на суму 1.766,000 зл. У сьнежні мінулага году было запратэстована 313,128 вэксалёў на суму 67,678,000 зл.

## У ДАБРАДЗЕЙНЫМ Т-ве.

У газэце „Бел. Крыніца“ нумар 10, зьмешчаны пратакол Рэвізыйнае Камісіі Дабрадзейнага Т-ва, у якім між іншым гаворыцца:

„Правёўшы рэвізію касавых кніг і дакумэнтаў, Рэвізыйная Камісія пастанавіла: 1) справаздачу аб рэвізіі Бел. Дабрадз. Т-ва падаць да агульнага ведама цераз беларускую прэсу, матывуючы гэта немагчымасьцяй здаць справаздачу, як гэтага вымагае Статут, перад агульным сходам, скліканьне якога, у сувязі з ведамымі падзеямі 19. XII. 1928 г., зрабілася сумліўным; 2) падаць таксама да агульнага ведама, што Камісія лічыць сход 19.XII. 1928 г. неправамочным дзеля наступных прычын: а) сход, вызначаны Урадам Т-ва на 19.XII. 1928 г., быў, на жаданьне Рэв. Камісіі, адкладзены, як несваячасны, аб чым загадзя пісьменна павядомлены адпаведныя ўлады і б) на гэтым „сходзе“ была прысутнаю толькі нязначная частка паўнапраўных сяброў Таварыства, а большасьць зьявілася асобамі, якія ня мелі права выносіць пастаноў ад імя Т-ва і выбіраць з пасярод сябе Урад, бо з прычыны няўносу сяброўскіх складак, мусілі быць выключаны згодна з Статутам з л ку сяброў Т-ва, што і было пастаўлена на павестку дня агульнага сходу; некаторая частка прысутных і сусім ня лічылася да гэтага часу сябрамі Т-ва.

Сябры Рэвізыйнай Камісіі:
(—) *М. Манцэвіч*, (—) *У. Павалковіч*.

# Карэспандэнцыі.

### АБ НАШЫМ ЖЫЦЬЦІ.

(в. Церабостынь, Стаўпецкага. п.)

Што раз то больш чуваць сялянскія нараканьні, што кепска жыць. Дый, бязумоўна, жыцьцё сялян ня лёгкае.

Вось, напрыклад, у гэтым годзе быў неўраджай жыта, авёс крыху прысмаліла сонца, трава амаль зусім згіунла, толькі бульба урадзіла добра. Заработкаў няма амаль ніякіх, а калі здарыцца ў месяц раз згадзіцца вязьці 25 пудоў збожжа за 30 вёрст у Гарадзей, дык і мо' за дзень і ноч з падводаю плацяць ледзь па 7 ці па 6 зл. Праўда вясною і восеньню хлопцы і дзяўчаты хадзілі працаваць у маёнтак кн. Сьвятаполка-Мірскага, Вушу. Але грошай яшчэ да гэтага часу не атрымалі. За цэлы дзень працы, ад сонца да сонца, плацілі 1 зл, 50 гр.

Палова нашай зямлі (пашы і сенажаці) граніčыць з сенажацямі кн. Мірскага. Як толькі карова ці кабыла узыйдзе на сенажаць (бо на сваіх пасьвішчах адны чорныя купіны), дык сторож Кучара займае ў маёнтак, а там плаці пану, а не — дык адрабляй цэлы тыдзень.

Гэтак было да гэтага году. Але цяпер, дык нават сьвіньні ня можна восеньню узыйці на панскую сенажаць. Раней, гадоў некалькі таму назад, дык калі маёнткавую сенажаць скосяць, дык як узыйдзе карова ці конь, то толькі зганялі на сялянскую пашу. А цяпер, як застаўся упраўляючым маёнткаў „галілеуш“ Мільчаркоўскі, дык пайшлі зусім іншыя парадкі. Каб ня быць галаслоўным, прытачу адзін факт. Восеньню на панскую сенажаць узыйшлі трое сьвіней грамадзяніна Л. і пастух ня ўсьпеў іх сагнаць, як сторож Кучара заняў і пагнаў у двор. Калі-ж грам. Л. пайшоў у маёнтак па сьвіньні, дык Мільчароўскі загадаў заплаціць ад штукі па 5 (пяць) зл., а не, дык два дні вазіць у маёнтак пясок.

Ці-ж гэта ня зьдзек? Хутка прыйдзе час, што трэба будзе плаціць за куры і за качкі...

Дык вось якія у нас дзеюцца рэчы. Селянін плаці ды плаці, а ўжо цяпер у некаторых гаспадароў няма хлеба, а каровы ядуць салому.

З боку культурна-асьветнага справа стаіць яшчэ горш: няма ня толькі беларускай школы, але нават і польскай, і дзеці швэндаюцца бяз ніякага занятку ужо амаль другі год. Ня ведаю ад каго гэта залежыць,

каб прыслаці вучыцеля, ці ад інспэктарату, ці ад куратoрыўму. Бо мы можа і паслалі-бы паданьне з просьбаю аб прысланьні нам вучыцеля. Ніякага гуртка культурна-прасьветнага, апрача кулка ральнічага, няма і моладзь марнуе дарэмна час, а нават і грошы на розныя гулянкі, якія часта канчаюцца бойкамі.

*Алесь Съведамы.*

## ШКОЛЬНАЯ СПРАВА.

(в. Юраўшчына і Ленькаўшчына, Беніцкай воласьці).

Дзякуючы руплівай працы Юраўскага Аддзелу Бел. Т—ва „Прасьвета", сяляне вёсак Юраўшчыны і Ленькаўшчыны у прошлым годзе злажылі Школьнаму Інспэктару ў Маладэчне дэклярацыю аб дазволе на адчыненьне роднай школы у в. Ленькаўшыне. З прычыны нядбальства некаторых асоб, да поўнага камплекту 40 не хапіла 6 дзяцей. Вельмі прыкра сталася, што гэтыя асобы папсавалі дарагую для нас справу — дамаганьне роднай школы, бо хоць дэклярацыі і здадзены у Інспэктарыят, але п. Інспэктар напэўна не зьвярнуў на іх патрэбнай увагі. Асабліва энэргічнымі барацьбітамі за родную школу адзначыліся Максім Дзямеш (з в. Ленькаўшчыны) і Вінцук Кановіч (з в. Юраўшчыны). Дык памятайце, грамадзяне, чаго ня скончылі рабіць у прошлым годзе, зрабеце у сёлетнім. „Стукайце і адчыніцца вам" гавораць хоць старыя, але мудрыя біблійныя словы, якія можна прымяркаваць і да змаганьня за родную школу. Дамагайцеся роднай школы цярпліва і упарта і атрымаеце яе, а так-жа атрымаеце шчырую падзяку і пашану ад дзяцей вашых.

Характэрна адзначыць яшчэ тое, што Беніцкі войт не хацеў заверыць дэклярацыі Язэпу Пятроўскаму (з ф. Селішча), тлумачачы і „даводзячы да розуму", што ён паляк, а не беларус.

Ужо здаецца, мае паночкі, праляцелі тыя дзянёчкі, што вы над намі сьмяяліся, кпілі, на „польскіх" і „рускіх" народ наш дзялілі. Дык, пане войце Беніцкай гміны, калі так здольны к дзяльбе мапайчына „лепш аддзяліся ад сваей жонкі, чым маеш дзяліць людзей нашай старонкі".

*Цецярук.*

## З БРАСЛАЎСКАГА ПАВЕТУ.

У нас тутака голад, холад і наагул вее нейкім жахам. Хутчэй даў-бы Бог прыйшлі сюды з дапамогай уладу маючыя і ратавалі-бы гэты край ад галоднай сьмерці. Не магу зараз праз гэта распаўсюджвацца, але надрукуйце, што тутака голад страшэнны. Ёсьць вёскі, дзе прададзены яшчэ з восені за дарма апошні конь, ці апошняя карова, а цяперака няма нічога ні прадаць, ні зарабіць дзе-небудзь які-небудзь злоты.

*С. В. Б.*

## КОЛЬКІ ПРАЦУЮЧЫХ У ПОЛЬШЧЫ.

Паводле апошніх статыстычных даных, у Польшчы на агульны лік каля 30 міл. насяленьня працуючых прыходзіцца 13,917,000, з іх 7,733,247 мужчынаў і 183,813 жанчын.

Найбольш працуе між 20 і 26 гадоў жыцьця — каля 3,5 мільёнаў, затым між 14 і 19 гадоў — 3 міл., між 30 і 39 г. — 2,5 м. У гэтых спастаўленьнях кідаецца ў вочы вельмі вялікі лік працуючых між 14 і 19 г. жыцьця. Калі да гэтага далучыць, што ніжэй 14 г., а значыць у дзяціным веку, працуе ў Польшчы больш 0,5 мільёнаў, дык пераканаемся, што першае мейсца па ліку займае група дзяцей і падрастаючай моладзі, змушанай працаваць. Гэтак сама шмат працуе і нават 60 г. — каля 1,200,000.

Адносна фаху з 14 м. каля 10 міл. працуе ў ральніцтве, агародніцтве, жывёлагадоўлі, рыбалоўстве і лясьніцтве. На другім мейсцы стаіць група займаючыхся гандлем — 400, тыс. чал.

Трэцяя група — горная наагул прамысловасьць. Прамысловасьць адзежная і галянтэрыйная — 333 тыс, дамовая абслуга 250 тыс.

Чыгунка і меставыя трамваі даюць працу 175 тыс. асоб, прамысловасьць спартовая — 150, дзеравяная прамысловасьць 115 тыс. і будаўляная — 105 т.

Служба публічная і вольны фах — адміністрацыя, адвакатура і г. д. — каля 136 т. Навука, літэратура, мастацтва, тэатр, музыка, спорт — каля 12 т.

З 14 міл. самастойных працаўнікоў каля 3 міл., а рэшта памагае ў сям'і — каля 6 міл., якіх каля 4 міл. жанчын.

Асобаў, якія не працуюць, а чэрпаюць сродкі утрнаыманьне сябе з розных даходаў (дармаедаў) ёсьць каля 250,000.

Адсюль відаць, што у Польшчы вельмі шмат працуе жанчын і дзяцей, на якіх ляжыць утрыманьне сям'і, а затым пажылых асобаў за 60 г., якім ужо час аддыхаць.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

Пабудзей Сымон, Нікіпаравіч Юрка, Полянскі Кузьма, — па 1 зл. атрымалі, газэту высылаем.

Ян Мысёнак 2 зл., Рэшыцкі Платон 1 з. 50 гр. Каз. Радзівонік 2 зл. — атрымалі, газэту высылаем.

Язэп Цывкэль — 3 зл. праз рэдакцыю „Сахі" атрымалі. Газэту высылаем.

Баз. Дурэйка—„Бел. Радны" высылаецца бясплатна толькі сябром Самаўрадавага Камітэту.

П. Трыпуцько—2 зл. атрыманы, газэта высылаецца акуратна. Спраўляйцеся на пошце. Высылку ня спыняем.

С.В.Б. Пісьмо Ваша атрымана. Захады робяцца. Чакаем на карэспандэнцыі.

Рэд.-Выд Т. ВЕРНІКОЎСКІ. ЛІТАРАМІ У. ЗНАМЯРОЎСКАГА ФІЛЯРЭЦКАЯ 12

ДРУК „РАХ" ВУЛ. СЬВ. ІГНАТА. 5.